■ Витольд Неврида

## В МОГИЛЁВЕ НА СОВЕТСКОЙ ПЛОЩАДИ УСТАНОВИЛИ 38 ФЛАГШТОКОВ, НА КОТОРЫХ РАЗМЕСТИЛИ ГОСУДАРСТВЕННУЮ СИМВОЛИКУ

**Идея в гипперпатриотизме у местных властей возникла после того, как руководитель Могилёвского горисполкома Владимир Цумарев посетил с рабочим визитом американский Техас.**

Там он увидел, что такое американский патриотизм и как он визуализирован на улицах. Теперь в Могилёве государственные флаги размещены не только на административных зданиях, однако на протяжении всей улицы Первомайской и Советской площади. К слову масса красных и зелёных флажков установлена и напротив драмтеатра.



Остаётся только гадать, что ещё подсмотрел в Америке руководитель Могилёва и какие из подсмотренных идей найдут в городе своё воплощение.

Как отметили могилёвские патриоты – идея замечательная, ведь бело-красно-белые флаги на флагштоках будут смотреться в будущем куда красивее.

■ Пан Тадэуш

## ЧТО ДЕЛАТЬ ЕСЛИ СЕЛ В МАРШРУТКУ, А ТАМ «ГЕОРГИЕВСКАЯ ЛЕНТОЧКА»?

**Могилевчанин Антон Косцов не растерялся. Он сфотографировал данное безобразие на свой мобильный телефон, затем пожаловался оператору кампании по перевозки пассажиров «Две столицы» и сообщил о данном инциденте в ГАИ.**



**Водитель - пособник украинских «сепаратистов»**

24-летний активист Объединённой Гражданской партии Антон Косцов возвращаясь из Минска в Могилев на маршрутном такси кампании «Две столицы» увидел на лобовом стекле автомобиля флаг Российской Федерации и «георгевскую ленточку».

Данные атрибуты вызвали у парня негативную реакцию. Он сфотографировал набор символов луганских и донецких сепаратистов и по приезду в Могилёв обратился к оператору кампании пассажираперевозок за объяснениями.

Девушка выслушала, приняла информацию к сведению, записала номер водителя автомобиля, в котором была замечена атрибутика украинских сепаратистов и обещала разобраться и прибрать её.

**После звонка в ГАИ за парнем «приехали»**

После того, как Антон Косцов позвонил в Госавтоинспекцию дежурный сказал, что сейчас к нему домой приедет инспектор ГАИ для разбирательства.

Активист ОГП уже успел испугаться, ведь ранее ему пришлось отсидеть трое суток за организацию акции протеста автомобилистов в Могилёве против введения налога на автомобили.

Вечером ГАИ сдержало своё слово, явилось к Антону домой и пригласило проехать в Могилёвское ГАИ для разбирательства.

Был составлен протокол опроса, после которого молодого либерала отвезли домой.

Антон отмечает, что в ГАИ его расспрашивали исключительно относительно его жалобы дежурному. Один из гаишников проявил понимание, отметив, что на лобовом стекле размещение посторонних предметов может препятствовать обзору.

**Мораль**

С могилёвским любителем «георгиевских ленточек» и российских триколоров обещали разобраться как в кампании «Две столицы», так и в Госавтоинспекции.

Однако, обращение в ГАИ Антона Косцова оставило ему массу впечатлений.

Остаётся только гадать, будут ли могилёвские ГАИшники готовы противостоять сценариям, которые разворачиваются на данный момент на Востоке Украины в так называемых «Луганской народной республике» и «Донецкой народной республике».

Ведь по Могилёву продолжают разъезджать автомобили с сепаратистской символикой, в том числе автомобили автошкол, белпочты, маршрутных такси и иногда служебных автомобилей чиновников.

На дзень горада па Магілёву хадзілі з расійскім трыкалорам Стр.5

Экс-кандыдат у прэзідэнты Рыгор Кастусёў абвінавачвае чыноўнікаў Шклоўскага райвыканкама ў некампетэнтнасці Стр.7

Что делать если сел в маршрутку, а там «георгиевская ленточка»? Стр.8

# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu
№73

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў, вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 30 чэрвеня 2014 г.

ПАЛІТВЯЗНІ

■ svaboda.org

## АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ Ў ЭЎРАПАРЛЯМЭНЦЕ: МЯНЕ ВЫЗВАЛІЛІ НЯ ПРОСТА ТАК

**Былы палітвязень, кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» сустрэўся ў Страсбуры з Марцінам Шульцам, які быў пераабраны на пасаду прэзыдэнта Эўрапейскага парляманту, з эўракамісарам у пытаньнях пашырэньня і палітыкі добрасуседзтва Штэфанам Фюле, Генэральным сакратаром Рады Эўропы Турб'ернам Ягландам і старшынёй Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы Ан Брасэр.**



У Эўрапарлямэнце адбылася прэсавая канфэрэнцыя беларускага праваабаронцы. Падчас выступу ён, прынамсі, сказаў:

Бяляцкі: Ёсьць прынцыповыя патрабаваньні Рады Эўропы, яны важныя і для нас. Яны тычацца скасаваньня сьмяротнага пакараньня ці мараторыя на яго. Таксама размова ідзе пра вызваленьне палітвязьняў і правядзеньне сумленных выбараў. На гэтыя патрабаваньні, на мой погляд, улады Беларусі сёньня пайсьці ня могуць. Але размаўляючы з уладамі Беларусі, трэба разумець, што мяне вызвалілі ня проста так. Значыць, ёсьць нейкая зацікаўленасьць уладаў Беларусі, каб палепшыць свае стасункі з ЭЗ. Гэта зьвязана ў тым ліку і з геапалітычным становішчам у нашым рэгіёне. Эканамічны саюз, які Беларусь заключыла з Расеяй і Казахстанам, занадта наблізіў Беларусь да Расеі і прэзыдэнт Лукашэнка хоча мець прастору для манэўру. Тым больш, што падзеі ва Ўкраіне насьцярожылі ўлады Беларусі адносна іх усходняга суседа. І гэтае жаданьне ці неабходнасьць паляпшэньня стасункаў з ЭЗ, неабходнасьць «вырасьціць другое крыло», прымушае прэзыдэнта Лукашэнку ісьці на нейкія саступкі.

Але наколькі далёка ён пойдзе ў гэтых саступках – цяжка сказаць. Такія пэрыяды мы ўжо перажывалі. Гэта было ў 2008-2010 гадах. Але потым яны рэзка скончыліся. Зараз трэба мець цьвярозую галаву і не ўпадаць у эйфарыю, што вызваленьне Бяляцкага зьяўляецца значным пазытыўным крокам. Палітвязьні застаюцца ў турме, рэпрэсіўная машына працуе, абмежаваньні палітычных, грамадзянскіх, сацыяльных правоў застаюцца. Трэба адсочваць сытуацыю ў Беларусі і прымаць рашэньні аб кантактах на вышэйшым узроўні зь Беларусьсю, сыходзячы з канкрэтных крокаў па комплексным паляпшэньні сытуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

«Азэрбайджанізацыя» сытуацыі ў Беларусі – напэўна было б зусім ня тое, чаго б мы хацелі. Мы лічым, што тая эканамічная дапамога, якую вельмі прагне атрымаць рэжым Лукашэнкі, павінна быць шчыльна зьвязаная з дапамогай грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі. Гэтыя рэчы павінны быць намёртва зьвязаныя. Інакш мы атрымаем сытуацыю гандлю з аўтарытарным рэжымам, калі паляпшэньне эканамічнай сытуацыі не паляпшае палітычнае і грамадзянскае становішча ў краіне, а рэжым за кошт гэтага гандлю ўмацоўвае сябе, свае інструмэнты падаўленьня свабодаў у сваім грамадзтве.

■ TUT.by

# СОЦИССЛЕДОВАНИЕ: УРОВЕНЬ ДОВЕРИЯ К ПРЕЗИДЕНТУ В БЕЛАРУСИ ПРОДОЛЖАЕТ ПОВЫШАТЬСЯ

**Отношение беларусов к государственной власти носит двойственный характер. Об этом говорится в отчете по результатам национального опроса, проведенного в июне 2014 года Независимым институтом социально-экономических и политических исследований (НИСЭПИ).**



С одной стороны, многие опрошенные выражают недовольство деятельностью государственной власти. Например, отвечая на вопрос, почему в Беларуси люди живут хуже, чем на Западе, треть респондентов считают, что «наш народ может работать не хуже, чем в странах Запада, но виновато плохое государственное управление» (на отсутствие у нас сырьевых ресурсов указали только 16.6%, а с тем, что «наш народ в целом менее трудолюбив, чем люди, живущие на Западе» согласились лишь 9.1%).

Самой острой проблемой нашего общества почти 24% считают коррупцию. С заявлением А. Лукашенко о том, что «белорусская власть постоянно и жестко борется с коррупцией» согласились 39.1%, а не согласились 48.4%. Почти 30% считают, что «А. Лукашенко будет пытаться бороться с коррупцией, но ему вряд ли удастся добиться существенных успехов, потому что коррупция в Беларуси неискоренима», свыше 20% – что «А. Лукашенко трудно бороться с коррупцией, поскольку он сам во многом зависит от коррумпированных чиновников», почти 20% – что «А. Лукашенко и не будет серьезно бороться с коррупцией, поскольку он тем или иным образом заинтересован в ней».

Неудивительно, что только 39.1%, отвечая на вопрос о том, какое государство построено при президенте А. Лукашенко, сказали «это мое государство, оно защищает мои интересы», 43.2% – что «это лишь отчасти мое государство, оно недостаточно защищает интересы таких как я», а 12% – что «это не мое государство, оно не защищает мои интересы, и я не доверяю ему».

С другой стороны, уровень доверия главе государства продолжает повышаться: если в декабре ему доверяли 37.7%, а в марте 45.9%, то в июне уже 49.6%, а не доверяли соответственно 47.5% vs. 44.1% vs. 39%. Электоральный рейтинг президента по-прежнему составляет 39.8% по открытому вопросу, а по закрытому даже подрос до 48.1%.

ГРАМАДСТВА

■ Вітольд Няўрыда

# МАГІЛЁЎ: ЦЭНТР ДЗІЦЯЧАЙ ТВОРЧАСЦІ ПАКУЛЬ ЗАСТАЕЦЦА Ў БУДЫНКУ ЦАРКВЫ

**Праваслаўныя вернікі хацелі вярнуць яго сабе і размясціць у ім царкву. Пад адпаведным зваротам да мясцовых уладаў і працоўнага калектыва “Цэнтра тэхнічнай творчасці” калектыўна звярнулася каля 1 500 чалавек.**

23 чэрвеня адбылася сустрэча з удзелам прадстаўнікоў аблвыканкама, праваслаўнай царквы, кіраўніцтва цэнтра, а таксама бацькоў гадаванцаў, дзе ўсебакова было абмеркавана ўзніклае пытанне.

Да жадання вернікаў вярнуць сабе будынак былой Канстанцінаўскай царквы мясцовыя ўлады аднесліся з разуменнем. Яны прапанавалі размясціць кружкі і секцыі ў іншых месцах горада. У гэтым чыноўнікі ўгледзелі магчымасць аптымізацыі творчага і адукацыйнага працэса.

Аднак гэтая пазіцыя не задаволіла бацькоў, якія ўбачылі ў гэтым жаданне знішчыць цэнтр як установу, так і яго калектыў, які выхаваў не адно пакаленне зацікаўленых тэхнікай дзяцей. Тым не менш самі бацькі не супраць таго, каб памяшканне былой царквы было вернута вернікам. У замен яны прасілі прадаставіць іншае адэкватнае месца, дзе бы размяшчаліся аднапчасова ўсе кружкі, а не былі раскіданы па ўсяму гораду.

Пасля амаль гадзіннага абмеркавання пытання начальнік упраўлення адукацыі аблвыканкама Уладзімір Рыжкоў заявіў, што, улічваючы думку бацькоў, будынак застанецца цэнтрам тэхнічнай творчасці. У той жа самы час пытанне аб перадачы будынка царкве застаецца адкрытым.

Трэба адзначыць, што ў сваёй заяве праваслаўныя вернікі не ўтрымаліся ад крытыкі Захада і абвінавацілі яго ў бязбожжы і вычварэнстве, якое ён хоча сілай навязаць беларусам. Тым часам, па іх сцвярджэнні, зараз адбываецца адраджэнне хрысціянскай веры, калі вернікам вяртаецца царкоўная маёмасць і тыя, хто перашкаджаюць гэтым працэсам, у тым ліку і супрацоўнікі “Цэнтра тэхнічнай творчасці”, з’яўляюцца богаборцамі.

Храм у гонар Канстанціна і Алены быў пабудавана да рэвалюцыі і быў царквою ваенных святароў. Таксама гэтая царква вядомая як Канстанцінаўская.



■ Ядвіга Люнтова

# ПА МАГІЛЁВЕ ПАЧАЎ КУРСАВАЦЬ ТРАЛЕЙБУС З РЭПРАДУКЦЫЯМІ КАРЦІН МЯСЦОВАГА МАСТАКА БАЗЫЛЯ КАМАРОВА

**У Магілёве 16 чэрвеня пачаў курсаваць тралейбус з рэпрадукцыямі карцін мясцовага мастака БазыляКамарова ў межах рэалізацыі праекта «Мастацтва на колах», прысвечанага 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**



На фота Базыль Камроў

«Мэта праекта — пазнаёміць магіляўчан з гісторыяй горада, з творчасцю вядомых магілёўскіх мастакоў, данесці мастацтва да кожнага. Такім чынам, любы жыхар горада можа наблізіцца да мастацтва. Гэта першы этап рэалізацыі праекта. Плануецца, што магіляўчане змогуць убачыць яшчэ адзін тралейбус, прысвечаны гісторыі горада», — паведаміў на адкрыцці выставы карцін Камарова ў тралейбусе кіраўнік Цэнтра гарадскіх ініцыятыў Юрый Стукалаў.

Цяпер адзіны ў Магілёве тралейбус маршруту № 4 аформлены рэпрадукцыямі карцін Базыля Камарова як звонку, так і знутры. «Я выбраў для гэтага тралейбуса свае найлепшыя работы, хаця гэта не было маёй ініцыятывай», — сказаў журналістам Камароў.

Арганізатарамі праекта выступілі Цэнтр гарадскіх ініцыятыў, Магілёўскі гарвыканкам, ТАА «Дакладная версія», грамадска-культурная кампанія «Будзьма беларусамі!», МДКУП «Гарэлектратранспарт». Паводле слоў арганізатараў, тралейбус з карцінамі Камарова будзе курсаваць у Магілёве прыблізна год.

МАГІСТРАТ

■ Станіслаў Дубовік

# ЭКС-КАНДЫДАТ У ПРЭЗІДЭНТЫ РЫГОР КАСТУСЁЎ АБВІНАВАЧВАЕ ЧЫНОЎНІКАЎ ШКЛОЎСКАГА РАЙВЫКАНКАМА Ў НЕКАМПЕТЭНТНАСЦІ

**Шклоўскі райвыканкам не здольны выконваць заканадаўства аб зваротах грамадзян і кампетэнтна адказваць на прапановы, выстаўленыя грамадскай ініцыятывай «Шклоўскі магістрат». Аб гэтым заявіў “Нашаму Магілёву” экс-кандыдат у прэзідэнты Рыгор Кастусёў.**

Нагадаем, 25 красавіка грамадская ініцыятыва «Шклоўскі магістрат» накіравала зварот раённым уладам з прапановай выйсці да кіраўніцтва краіны з прапановай аб стварэнні ў раёне своеасаблівай эканамічнай зоны. Таксама было прапанавана ўстанавіць на гарадской ратушы шыльду з інфармацыяй, што ў мінулым Шклоў меў Магдэбургскае права.

«На працягу месяца я двойчы заходзіў у аддзел пісьмаў і задаваў канкрэтныя пытанні. І яны казалі: не хвалюйцеся, адказы на вашыя пытанні будуць. Прайшло ўжо паўтара месяца, але адказу да гэтага часу няма. Асноўны ж сэнс нашага звароту быў у тым, што ў апошнія гады ў Шклоўскі раён накіраваныя з дзяржаўнага бюджэту і розных іншых крыніц вялікія фінансавыя сродкі, і гэтыя сродкі выкарыстаныя, мякка кажучы, неэфектыўна. Па многіх паказчыках Шклоўскі раён апынуўся на першым месцы ззаду», — сказаў Кастусёў.

Члены «Шклоўскага магістрата» мяркуюць, што кампетэнцыя чыноўнікаў райвыканкама не дазваляе ім ацаніць зробленыя грамадскімі актывістамі прапановы адносна эканамічнага развіцця раёна. «Мы лічым, што, яны не тое што не жадаюць разглядаць зварот, там цяпер проста няма каму асэнсаваць тыя прапановы, якія ўнеслі члены «Шклоўскага магістрата».

Паводле Кастусёва, «раён ляціць у бездань». «І калі я з’яўляюся ў Шклове, усе пытаюць, што далей будзе з раёнам, са Шкловам. Сітуацыя напружаная, людзі адчуваюць гэта па сваіх заробках. Чыноўнікі, ведаючы гэта, не прымаюць ніякіх мер», — заявіў экс-кандыдат у прэзідэнты.

16 чэрвеня члены «Шклоўскага магістрата» паўторна накіравалі ў райвыканкам свае прапановы аб паляпшэнні эканамічнай сітуацыі ў раёне.



Яўген Калмач

# ВЯРХОЎНЫ СУД АДМОВІЎСЯ ПРЫЦЯГВАЦЬ ДА АДКАЗНАСЦІ МІЛІЦЫЯНЕРА, ЯКІ БЫЎ АБВІНАВАЧАНЫ Ў ЗНІШЧЭННІ МАЁМАСЦІ МАГІЛЁЎЦА

**Вярхоўны суд адмовіў у задавальненні скаргі магілёўца Аляксандра Хамратава, які патрабаваў прыцягнуць да адказнасці міліцыянера за знішчэнне яго напою.**



Інцыдэнт, які вымусіў Хамратава патрабаваць прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці міліцыянера, ваеннаслужачага часці ўнутраных войскаў № 5523 Аляксандра Несцярэнкі, адбыўся 9 мая 2013 года ў Магілёве ў лесапарку каля Палаца гімнастыкі. Паводле істца, ён разам з прыяцелем Аляксандрам Аўдзеевым купіў на разліў літр хлебнага квасу за 9 тыс. рублёў. Напой быў наліты ў пластыкавую бутэльку без якіх-небудзь этыкетак. Па дарозе дамоў яны спыніліся ў лесапарку, каб выпіць квасу. Патрульны нарад, які праходзіў міма, вырашыў, што побач з маладымі людзьмі стаіць бутэлька піва, і Аляксандр Несцярэнка выліў змесціва, каб «не дапусціць ужывання піва непаўналетнімі». Хамратаў звярнуўся да кіраўніцтва Ленінскага РАЎСа з просьбай прыцягнуць Несцярэнку да адміністрацыйнай адказнасці за знішчэнне яго маёмасці.

У чэрвені 2013 года намеснік начальніка Ленінскага РАУС Аляксандр Патарэнка справу аб адміністрацыйным правапарушэнні спыніў, не ўбачыўшы ў ёй складу парушэння заканадаўства. Пасля гэтага Хамратаў звярнуўся ў пракуратуру Ленінскага раёна, якая адмяніла рашэнне Патарэнкі і накіравала справу ў РАУС на новы разгляд. Аднак 30 снежня 2013 года Аляксандр Патарэнка вынес рашэнне, аналагічнае першаму. Ленінскі суд Магілёва 12 лютага адмовіў у задавальненні скаргі Хамратава. Гэта рашэнне не было абскарджана істцом у вышэйшых судовых інстанцыях.

«Прыналежнасць вам вадкасці, якую выліў Несцярэнка, дакладна ўстаноўлена не была», — гаворыцца ў адказе намесніка старшыні Вярхоўнага суда Валерыя Калінковіча на скаргу Хамратава. Адпаведна, няма доказаў і нанясення міліцыянерам маёмаснай шкоды істцу, адзначае Калінковіч.

«З адказу вынікае, што я не ведаю, што я купляю і што я распіваю. Нягледзячы на тое, што я нармальны дзеяздольны чалавек, мае аргументы не ўспрымаюцца і ні ў што не ставяцца. Але міліцыі, якая не можа ведаць, што было ў бутэльцы, аддаецца прыярытэт, хоць усе быццам бы роўныя перад законам», — заявіў “Нашаму Магілёву” Аляксандр Хамратаў.

«Калі б Несцярэнка не разумеў, што гэта была наша бутэлька, ён да нас бы не падыходзіў. І для яго было зразумела, каму належыць бутэлька», — адзначае Хамратаў.

Акрамя таго, паводле яго, суд адмовіўся дадаць да матэрыялаў справы касавыя чэкі, якія пацвярджаюць куплю ім квасу. «Я пісаў у сваёй скарзе першапачатковай, што мне не далі магчымасці дадаць чэкі як доказ, што гэта мой быў квас. І на мой довад, што справа разгледжана аднабакова, не вывучаны ўсе факты, Калінковіч ніяк не рэагуе», — сказаў ісцец. Ён заявіў, што звернецца са скаргай на імя старшыні Вярхоўнага суда Валянціна Сукалы.

Якуб Корсак

# У МАГІЛЁВЕ “БЕЛЛЯЛЬКА” ВЫПУСЦІЛА КАЛЕКЦЫЮ ЛЯЛЕК У БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ СТРОЯХ



**Серыя сувенірнай прадукцыі падрыхтавана з нагоды Года гасціннасці.**

Са славаў дырэктара прадпрыемства Валянціны Тухто серыя ўяўляе сабой лялек у нацыянальных мужчынскіх і жаночых строях дзесяці рэгіёнаў Беларусі, над распрацоўкай якой працавалі мінскія дызайнеры паводле рэкамендацый этнографаў і гісторыкаў краіны. У дадзенай калекцыі ёсць пара, якая прадстаўляе і адметны магілёўскі строй.

Валянціна Тухто паведаміла, што новая калекцыя лялек ужо карыстаецца попытам калекцыянераў, якіх аказалася багата ў Беларусі. Шмат хто набывае лялькі ў якасці сувеніраў для замежных сяброў.

Калекцыю лялек можна набыць у сувенірных аддзелах гандлёвых аб’ектаў, альбо замовіць яе на прадпрыемстве. Калекцыя называецца “Лялька ў беларускім нацыянальным адзенні”.



Станіслаў Дубовік

# МІНБУДАРХІТЭКТУРЫ ЗАПАТРАБАВАЛА АД МАГІЛЁЎСКАГА АБЛВЫКАНКАМА ВЫКАНАННЯ СВАІХ ДАРУЧЭННЯЎ

**Міністр архітэктуры і будаўніцтва Анатоль Чорны адправіў ліст кіраўніку Магілёўскага аблвыканкама Пятру Рудніку з указаннем на неабходнасць выканання даручэння аб паўторным абследаванні запланаваных да зносу дамоў па вуліцы Крупскай у Магілёве.**




На фота Анатоль Чорны

Нагадаем, жыльцы сямі дамоў па вуліцы Крупскай на тэрыторыі былога ваеннага гарадка запатрабавалі ад гарадскіх уладаў адмяніць рашэнне аб зносе, прынятае, як яны мяркуюць, незаконна. У сакавіку жыльцы звярнуліся ў Мінбудархітэктуры, выказаўшы сваю нязгоду з рашэннем мясцовых уладаў. Кіраўнік ведамства Анатоль Чорны ў лісце ад 17 красавіка даручыў упраўленню ЖКГ Магілёўскага аблвыканкама сумесна з Магілёўскім гарвыканкамам правесці паўторнае абследаванне стану запланаваных да зносу дамоў. Аднак, гэтае даручэнне не было выканана, што прымусіла жыльцоў зноў звяртацца ў міністэрства, а таксама ў абласную пракуратуру, абвінаваціўшы мясцовых чыноўнікаў у бяздзеянні.

У сваім лісце на імя кіраўніка магілёўскай абласной вертыкалі Анатоль Чорны ўказвае, што паўторнае абследаванне запланаваных да зносу дамоў дагэтуль не выканана, нягледзячы на дадзенае Мінбудархітэктуры даручэнне.

Міністр архітэктуры і будаўніцтва Беларусі зноў просіць Магілёўскі аблвыканкам «аказаць садзейнічанне і даручыць Магілёўскаму гарвыканкаму сумесна з упраўленнем жыллёва-камунальнай гаспадаркі Магілёўскага аблвыканкама, з прыцягненнем спецыялізаваных арганізацый, якія выконваюць інструментальнае абследаванне будынкаў, а таксама ўсіх зацікаўленых, у самы кароткі тэрмін правесці паўторнае абследаванне стану карпусоў №№ 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7 жылога дома № 1 па вуліцы Крупскай у Магілёве і вынікі абследавання прадставіць у Мінбудархітэктуры».

Як паведаміў “Нашаму Магілёву” праваабаронца Барыс Бухель, абласная пракуратура ў сваю чаргу пераслала калектыўны зварот жыльцоў у Магілёўскі аблвыканкам.

Жыльцы былога ваеннага гарадка па вуліцы Крупскай сцвярджаюць, што 26 снежня 2013 года гарвыканкам неабгрунтавана і тайна прыняў рашэнне, якое зараз аспрэчваецца ў судзе, а акты абследавання кватэр у 2013 годзе не адпавядаюць сапраўднасці. Грамадзяне ўпэўненыя, што іх дамы зносяць для наступнага будаўніцтва, што трэба кваліфікаваць як канфіскацыю зямель пад дзяржаўныя патрэбы, і гэта жыллё не можа лічыцца непрыгодным для пражывання. Прадстаўнікі магілёўскай гарадской і абласной улады сцвярджаюць адваротнае, заяўляючы, што ўсе дзеянні гарвыканкама законныя.

19 мая ў Магілёве адбыўся суд па скарзе жыльцоў гэтых дамоў на рашэнне гарвыканкама аб зносе. Суд прызначыў судова-будаўнічую экспертызу пабудоў, якая будзе праведзена пасля таго, як жыльцы збяруць на яе некалькі дзясяткаў мільёнаў рублёў.

# ПА МАГІЛЁВУ РАЗ’ЯЗДЖАЕ АЎТО, ЯКОЕ ПАДТРЫМЛІВАЕ ТЭРАРЫСТАЎ ДАНБАСА

**Машына была заўважана 26 чэрвеня на бульвары Няскораных. На заднім шкле Пежо 308SW нумар 77 39 ЕМ-6 напісана «Севастополь, Данецк, Луганск, Адэса». Акрамя таго па дыяганалі шкла была размешчана георгіеўская стужка.**




Фота Якуба Корсака, «НАШ Магілёў»

Станіслаў Дубовік

## У МАГІЛЁВЕ СЯРЭДНІ ЗАРОБАК Ў ТРАЎНІ 2014 ГОДА ПЕРАВЫСІЛА 580 ДОЛАРАЎ У ЭКВІВАЛЕНЦЕ

**У Магілёве сярэдняя заработная плата ў траўні 2014 года склала 582 долары ЗША ў эквіваленце. Інфармацыя пра гэта была пададзена на бізнес-форуме «Прыдняпроўе», які 26—27 чэрвеня праходзіў у абласным цэнтры.**

Згодна з пададзенымі звесткамі, за студзень—травень 2014 года сярэдні заробак у Магілёве склаў 564 долараў. У траўні 2013-га ён склаў 555 долараў.

З 371 тысячы гараджан 176 тысяч складаюць эканамічна актыўнае насельніцтва Магілёва.

26% эканамічна актыўнага насельніцтва маюць агульную сярэднюю адукацыю, 25% — прафесійна-тэхнічную, 24% — вышэйшую, 23% — сярэднюю спецыяльную, і 2% — базавую.




«Нам удалося за два апошнія гады захаваць узровень беспрацоўя не вышэйшы за 0,7%, што таксама станоўча характарызуе эканамічную сітуацыю і інвестыцыйную прыцягальнасць рэгіёна», — заявіў на пленарным пасяджэнні форуму ў канцэртнай зале «Магілёў» старшыня Магілёўскага гарвыканкама Уладзімір Цумараў.

Паводле яго, Магілёў ажыццяўляе гандлёвую дзейнасць больш чым з сотняй краін свету, пры гэтым прадукцыя прадпрыемстваў экспартуецца на рынкі больш як 50 краін.

Кіраўнік гарадской вертыкалі зазначыў, што аб'ём знешняга гандлю горада за 2013 год склаў 2,2 млрд. долараў ЗША, пры гэтым на долю краін СНД прыпадала 72,7%, а на Расію 63,6%. Таксама за 2013 год у Магілёве склалася станоўчае гандлёвае сальда на ўзроўні 270 млн. долараў

## ПРАКУРАТУРА МАГІЛЁВА НЕ ЎГЛЕДЗЕЛА СКЛАДУ ПРАВАПАРУШЭННЯ Ў ЗБІЦЦІ АПАЗІЦЫЙНАГА КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ

**Пракуратура Магілёва прызнала правамерным спыненне міліцыяй адміністрацыйнай вытворчасці па справе аб збіцці кандыдата ў дэпутаты Магілёўскага гарадскога і абласнога Саветаў дэпутатаў на выбарах 23 сакавіка Аляксея Паўлоўскага.**

Напад на Паўлоўскага быў учынены ў Магілёве 16 сакавіка каля дома № 122 па вуліцы Грышына, калі ён раскладваў па паштовых скрынях свае інфармацыйныя ўлёткі. Паводле слоў апазіцыйнага актывіста, двое грамадзян, відаць, бацька і сын, адзін з якіх заяўляў, што ён палкоўнік міліцыі і служыў у Афганістане, нанеслі яму ўдары па галаве і заламілі рукі. Пасля інцыдэнта Паўлоўскі прайшоў судова-медыцынскі агляд, які пацвердзіў цялесныя пашкоджанні. Аднак РАЎС Ленінскага раёна Магілёва, правёўшы праверку, не ўстанавіў факту нанясення гэтых цялесных пашкоджанняў двума вышэйназванымі грамадзянамі, як высветлілася, бацькам і сынам Малахавымі.

У паведамленні намесніка начальніка Ленінскага РАЎСа Аляксандра Патарэнкі аб спыненні справы аб адміністрацыйным правапарушэнні Паўлоўскаму пры нязгодзе прапаноўвалася скардзіцца ў вышэйшую інстанцыю ці суд. Тэрміны абскарджання ў лісце не ўказваліся, таксама не ўказвалася, што вышэйшай структурай з'яўляецца Ленінскі РАЎС Магілёва, а не УУС Магілёўскага аблвыканкама, куды затым звярнуўся Паўлоўскі. У выніку заяўнік парушыў тэрміны падачы скаргі, аб чым яму паведаміў намеснік начальніка УУС Сяргей Іваноў. Экс-кандыдат абскардзіў гэты адказ у пракуратуры Магілёва.

У адказе Паўлоўскаму пракурор Магілёва Мікалай Вульвач указвае, што, паводле высноў судмедэкспертызы, цялесныя пашкоджанні яму былі нанесены не ў тыя гадзіны 16 сакавіка, якія ён пазначыў. Акрамя таго, паводле адказу пракурора, судмедэксперт не пацвердзіў, што цялесныя пашкоджанні Паўлоўскому былі нанесеныя менавіта тымі грамадзянамі, на якіх заяўнік указвае. «Фармальна дзеянні Малахавых могуць падпадаць пад прыкметы аб'ектыўнага боку правапарушэння, прадугледжанага ч.1 арт.9.1. КоАП Рэспублікі Беларусь. Наяўнасць шкодных наступстваў дзеяння таксама з'яўляецца абавязковай прыкметай складу такога правапарушэння. Адсутнасць у дзеяннях абавязковай прыкметы складу правапарушэння выключае адміністрацыйную адказнасць за яго ўчыненне», — гаворыцца ў адказе Вульвача.

Паводле пракурора, патрабаванні, якія заяўляюцца Паўлоўскім аб неабходнасці правядзення дадатковых працэсуальных дзеянняў, скіраваных на збор доказаў віны Малахавых (напрыклад, апытання сведак), указанні на дапушчаныя працэсуальныя парушэнні, не маюць прынцыповага значэння, не ўплываюць на неабходнасць прыняцця рашэння аб спыненні справы па вышэйзгаданай акалічнасці».

Як заявіў "Нашаму Магілёву" Аляксей Паўлоўскі, ён лічыць такі адказ спробай адвесці вінаватых у яго збіцці ад адказнасці, а само збіццё не ён разглядае як пераслед за актыўную грамадскую і палітычную дзейнасць. Актывіст мае намер абскардзіць адказ пракурора Магілёва ў вышэйшай інстанцыі.



Якуб Корсак

## У МАГІЛЁВЕ МАЛАДЫЯ ПРАВААБАРОНЦЫ ВЫДАЛІ ЧАСОПІС HOMONEGATIVE, ЯКІ ПРЫСВЕЧАНЫ ПРАБЛЕМАМ ЗНОСІН З ПРАДСТАЎНІКАМІ ЛГБТ-СУПОЛЬНАСЦІ

**Магілёўскія выпускнікі школы правоў чалавека ў Вільне выдалі часопіс Homonegative, прысвечаны праблемам зносін і ўзаемаадносін з гомасэксуалістамі.**

Як паведаміў "Нашаму Магілёву" адзін з актывістаў "Магілёўскай праваабарончай групы", якая арганізавала выданне часопіса, Аляксандр Буракоў, зносіны з прадстаўнікамі сэксуальных меншасцяў паказалі, што яны ўспрымаюць як праяву гамафобіі любое выказанае супраць іх меркаванне, таму ў асяроддзі маладых магілёўскіх праваабаронцаў нарадзіўся праект "Гіманегатывізм vs Гамафобія". "Мы прапануем паняцце "гоманегатывізм", паколькі "фобія" азначае боязь. Мы ж не баімся геяў, але нам непрыемная тэма дэманстратыўных і назойлівых праяў нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі", — сказаў Буракоў.




Паводле актывіста, прадстаўнікі ЛГБТ-супольнасці нецярпіма стаўяцца да адрознага ад уласнага пункту гледжання на нетрадыцыйную сэксуальную арыентацыю. Менавіта таму маладыя магілёўскія праваабаронцы паставілі сваёй мэтай паказаць, што "геі павінны разумець, што супраць іх хтосьці можа штосьці казаць і яны павінны спакойна гэта выслухоўваць".

"Мы заклікаем выкарыстоўваць паняцце "гоманегатывізм" як праяву нязгоды з геямі, але якое ў той жа час гаворыць аб непрыманні любога гвалту ў дачыненні да іх. Геі маюць правa на існаванне, і яны карыстаюцца такімі ж правамі, як і ўсе, але нам непрыемна, калі хтосьці пачынае, напрыклад, выступаць за гей-парад", — сказаў Буракоў.

У часопісе, які з'яўляецца спецвыпускам магілёўскага маладзёжнага інтэрнэт-праекта "Малако", размешчаны артыкулы, у якіх гаворыцца аб ненатуральнасці аднаполых шлюбаў, поглядах святароў розных хрысціянскіх канфесій на нетрадыцыйныя сэксуальныя адносіны, найбольшай распаўсюджанасці СНІДу ў людзей, што практыкуюць гомасэксуалізм, барацьбе ЛГБТ-супольнасцяў з грамадскай мараллю. Раскрываюцца вытокі сучаснай гамафобіі, якія бяруць свой пачатак, паводле меркавання аўтараў часопіса, у месцах зняволення.

"Для ЛГБТ-супольнасці няма шансаў на паляпшэнне сітуацыі без рэфармавання беларускай пенітэцыярнай сістэмы. Пакуль у турмах будуць захоўвацца цяперашнія парадкі, а сярод падлеткаў лунаць рамантычны дух "зоны", ні пра якую талерантнасць у грамадстве гаварыць немагчыма", — гаворыцца ў артыкуле "Пра рэальную гамафобію" аўтарства групы маладых праваабаронцаў.

Часопіс выйшаў накладам 100 асобнікаў. Яго мэтавай аўдыторыяй, паводле слоў Буракова, з'яўляюцца праваабаронцы, актывісты грамадскіх арганізацый, палітыкі.

## НА ДЗЕНЬ ГОРАДА ПА МАГІЛЁВУ ХАДЗІЛІ З РАСІЙСКІМ ТРЫКАЛОРАМ

Несанкцыяванае шэсце з расійскім трыкалорам па пешаходнай вуліцы Ленінскай у Магілёве арганізавала руская дыяспара. На фота заўважаны выкладчык Беларуска-Расейскага ўніверсітэта Віталь Арцёмчык, які з'яўляецца кіраўніком шэрагу прарасійскіх арганізацый, у тым ліку арганізацыі «Наследие». Ён вядомы ў горадзе як зацяты русафіл і навязвае рускую культуру і ідэю студэнтам і выкладчыкам універсітэта.

